№ 3 (126)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Сакавік 2012 г.

## Наш дэпутат будзе гандляваць калійнымі ўгнаеннямі



***Валерый Іваноў***

Напрыканцы лютага кіраўнік краіны даў згоду на прызначэнне дэпутата Палаты прадстаўнікоў ад Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў Валерыя Іванова на пасаду генеральнага дырэктара ЗАТ "Беларуская калійная кампанія".

Фармальна Валерыя Мікалаевіча значна панізілі ў займанай пасадзе, бо адначасова Аляксандр Лукашэнка вызваліў Іванова ад пасады намесніка прэм'ер-міністра краіны. Аднак фактычна Валерыю Мікалаевічу магчыма толькі пазайздросціць, бо, замест таго, каб узначальваць згубную для ўсіх чыноўнікаў сельскагаспадарчую галіну, зараз Іваноў будзе ўзначальваць прадпрыемства, якое прыносіць у краіну найбольшую масу валютнай выручкі. Ды і як можа быць інакш, калі Беларуская калійная кампанія – гэта эксклюзіўны пастаўшчык калійных угнаенняў ААТ "Беларуськалій" (Беларусь) і ААТ "Уралкалій" (Пермскі край, Расія) на сусветныя рынкі і вядучы сусветны экспарцёр гэтай прадукцыі.

На маю думку, можна казаць адназначна, што на маючых адбыцца выбарах у Палату прадстаўнікоў вылучацца кандыдатам у дэпутаты Валерый Іваноў ужо не будзе. Навошта Валерыю Мікалаевічу зараз кватэра ў Шклове і хатка ў Магілёве, калі ён зможа дазволіць сабе адпачываць у больш паўднёвых месцах еўрапейскага ( і не толькі) кантынента…

Нагадаю, што падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў у 2008 годзе ў Шклоўскім раёне былі якраз і выяўлены найбольшыя парушэнні. У прыватнасці, сябар раённай выбарчай камісіі, кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі, зафіксаваў той факт, што ў раённую камісію выніковыя пратаколы ўчастковых камісій паступалі незапоўненымі, але падпісанымі ўсімі іх членамі… Выбухнуў громкі скандал на ўсю краіну, аднак наш Цэнтрвыбаркам, як і заўсёды, парушэнняў не заўважыў. Ды чаму тут здзіўляцца, члены ЦВК не вераць нават кіраўніку краіны Аляксандру Лукашэнка, які неаднаразова сцвярджаў перад тэлекамерамі, што прэзідэнцкія выбары ў Беларусі фальсіфікаваліся па яго загаду. Дарэчы,падчас мінулых парламенцкіх выбараў у нас у Бялынічах у Палацы культуры ў скрыні для датэрміновага галасавання таксама немаведама адкуль з'явілась семдзесят лішніх бюлютэняў для галасавання. Факт быў зафіксаваны назіральнікамі, напісаныя адпаведныя скаргі, але, як звычайна, парушэнняў на "самых дэмакратычных у свеце выбарах" у нашым раёне правяраючыя не ўгледзелі. Застаецца толькі нагадаць, што напярэдадні выбараў Валерый Іваноў якраз узначальваў Шклоўскі райвыканкам.

Не магу не ўзгадаць і той факт, што якраз падчас кіраўніцтва Валерыя Мікалаевіча Шклоўскім раёнам выбухнуў яшчэ адзін громкі скандал, які таксама прагучаў на ўсю краіну. Сам Аляксандр Рыгоравіч у шчэнт раскрытыкаваў стан спраў на сваёй "малой радзіме". Каб нашы паважаныя апаненты не казалі, што зноў "праклятыя дэмакраты" брэшуць і "ачэрняюць рэчаіснасць", прывяду даслоўную цытату з самай што ні на ёсць праўладнай газеты "Советская Белоруссия":

***(Пачат. Зак. на стар. 2)***

## «Палітычны ананізм» і паўналецце беларускай дэмакратыі




Хадзіць ці не хадзіць? Вось пытанне, якое ўвесь час узнікае напярэдадні беларускіх выбараў на апазіцыйных кухнях.

Улада раз за разам б'е — або брутальна, як 19.12.2010, або акуратней, прэвентыўна-па-махлярску, як ў папярэдніх палітычных кампаніях. А апазіцыя… раз за разам ходзіць. «Хадзіць!»-амаль аднагалосна выгуквалі розныя партыі і рухі 15 год.

Ці не настаў час задумацца — да чаго ж мы «дахадзіліся» за гэты час?

1) Адбылася легалізацыя і ўмацаванне існага рэжыму. У вочных, закулісных і іншых амаральных змаганнях з апазіцыяй выкавалася яе ідэялагічная «зброя», выпрасталася ўладная вертыкаль і загартаваліся карныя органы.

2) Спынілася эканамічная трансфармацыя і развіццё краіны, для чаго былі даволі спрыяльныя ўмовы ў сярэдзіне і канцы 2000-х. Цяпер гэта будзе рабіць і больш балюча, і менш эфектыўна.

3) Наступствам удзелу у выбарах стаў і дзяржаўны пераварот 19.12.10, які ўсё ж такі адбыўся насуперак волі большасці людзей,

***(Пачатак. Закан. на стар. 3)***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Наш дэпутат будзе гандляваць калійнымі ўгнаеннямі

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1)*

“Президент поручил Комитету государственного контроля провести всестороннюю проверку Шкловского района, акцентируя внимание на выполнении здесь социальных стандартов…Итоги проверки оказались, мягко говоря, неоднозначные…«Вскрытые недостатки просто удручают», — подытожил работу контролеров Президент. Проблемы проявились существенные. Если говорить об экономике, то здесь слишком высока кредиторская задолженность предприятий. Поиск рецептов оздоровления убыточных хозяйств ограничился их механическим объединением, что само по себе не может дать эффекта. Частные предприятия при этом намеренно занижают прибыль с целью уменьшить налоги. А государственные руководители занялись приписками. Этим грешили 6 хозяйств из 7 проверенных, что не может не наталкивать на мысль о массовом характере явления…Но больше всего Президента волнует состояние дел в тех сферах, в которых работают непосредственно с людьми. Катастрофически много недостатков в работе торговли и системы бытового обслуживания. Ассортимент товаров в магазинах потребкооперации так же скуден, как и представления персонала о культуре обслуживания. В 18 магазинах Шкловского райпо зачастую нет муки, круп, мясных и рыбных продуктов, ниток, лампочек, моющих средств...В точках общепита жуткая антисанитария…Но самые вопиющие нарушения — в медицинском обслуживании населения…Люди из деревень вынуждены ехать ни свет ни заря в райцентр и там чуть ли не по полдня ждать своей очереди к доктору. Очереди у врачебных кабинетов — привычное, к сожалению, явление».

Гэта толькі невялікая цытата з вялікага праграмнага артыкула “СБ”, у якім пералічваецца яшчэ цэлы шэраг недахопаў і злоўжыванняў у Шклоўскім раёне. Аднак усе гэтыя факты не перашкодзілі Валерыю Мікалаевічу ўпэўнена рухацца наверх па службовай лесвіцы, а зараз заняць адну з самых “эканамічна выгодных” пасад у нашай краіне. Свае людзі там заўсёды патрэбны…

***Сяргей Семяновіч***

**Даведка “Паходні”:**

ІВАНОЎ ВАЛЕРЫЙ МІКАЛАЕВІЧ — Нарадзіўся 27 ліпеня 1955 г. у вёсцы Папехінка Клімавіцкага раёна. У 1972 г. паступіў у Клімавіцкі тэхнікум, адкуль быў прызваны ў войска. У 1983 г. скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці «Заатэхнія», у 1992 — БДУ па спецыяльнасці «Паліталогія», у 2006 — Акадэмію кіравання па спецыяльнасці «Кіраванне прадпрыемствамі АПК».

Працоўную дзейнасць пачаў у 1977 г. у Круглянскім раёне. Працаваў заатэхнікам, старшынёй калгасу, у 1987 – 1997 гг. — на кіраўнічых пасадах у Круглянскім райвыканкаме. З 1997 па 2002 — старшыня знакамітага калгасу «Рассвет» у Кіраўскім раёне, дзе змяніў арыштаванага *В. Старовойтава*. З 2002 па 2004 — старшыня Кіраўскага райвыканкама. З сакавіка 2004 па кастрычнік 2008 — старшыня Шклоўскага райвыканкама. З кастрычніка 2008 — дэпутат парламента, намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў. З 28.05.2010 па 27.12.2010 гг. - намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама.

Са снежня 2010 г. па і да апошняга часу быў намеснікам прэм’ер- міністра Беларусі.

Узнагароджаны ордэнам Пашаны, медалем “За працоўную адзнаку”.

Жанаты. Мае дачку і сына.

# Генерал-губернатар абяцае сярэдні заробак у памеры 3,8 мільёна рублёў

Падчас чарговай сесіі абласного Савета дэпутаў, Пётр Руднік вызначыў асноўную мэту на 2012 год.

- Галоўным вынікам працы павінна стаць дасягненне такога важнага паказчыка, як рост сярэдняга заробку, які да снежня цяперашняга году не можа быць меней за 3,8 мільёна рублёў, - падкрэсліў ён.

На гэтым жа пасяджэнні гаварылася і пра невыкананне «асобных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця». Ці атрымаецца ў Пятра Рудніка выканаць абяцанне, пакажа час.

Гэтымі ж днямі ў Бабруйску, другі высокі чыноўнік - старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка, таксама гаварыў пра зарплату:

- Нельга разлічваць, што хтосьці дасць нам грошы і хтосьці проста так падвысіць заробкі. Грошы трэба зарабляць самім.

Шляхі, якімі ўлада будзе шукаць грошы на зарплату, не змяніліся: пошук інвестараў, падвышэнне прадукцыйнасці працы і рост экспатра прадукцыі.

***Андрэй Волкаў, “Наш Магілёў”***



## «Палітычны ананізм» і паўналецце беларускай дэмакратыі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

жадаючых перамен. Плады «снежаньскай контррэвалюцыі» мы спажываем і сёння.

Яшчэ адным вынікам «хаджэння ў выбары» мог бы стаць юбілей беларускай дэмакратыі. Калі пачаткам лічыць 1994 год, то сёлета ў нас будзе «паўналецце» народаўладдзя.

Але нешта не адчуваецца свята і радасці ад таго, што «нам ужо 18». І справа, відаць, у тым, што тутэйшая дэмакратыя крыху «не тая», ці то «скрыўленая» ці, наадварот, «очань прамая». Незвычайнасць яе праяўляецца, напрыклад, у тым, што занятак амаль усёй нашай апазіцыі ў апошнія гады можна смела назваць «палітычным ананізмам».

Візуальны «ўдзел» у палітыцы без доступу да «цела» (парламента і ўлады) з кожным разам усё больш нагадвае падлеткавую мастурбацыю пры падглядванні за «даросьлымі цёцямі». Гэта ўжо стала беларускім палітычным рытуалам: асобным апазіцыянерам раздаюцца «абяцанкі-цацанкі» ў выглядзе рэгістрацыі ў ЦВК- наце, хлопцы, спрабуйце, мо зараз і ўдасца... Прычым усе ведаюць, што ўдасца зноў тое самае, бо да «цела» дапускаюцца толькі «правільныя і правераныя члены».

Калі беларуская дэмакратыя сапраўды ўжо выйшла з падлеткавых гадоў, то трэба канчаць з гэтым псеўдавыбарным «ананізмам».

На маю думку, пакуль не адбудзецца змены выбарчага закону і самога механізму выбараў, удзельнічаць сур'ёзным, дарослым людзям у такіх ганебных актах не мае сэнсу.

Лепш устрыманне ад сэксу, чым хлапечае рукаблудства, ад якога, як вядома, не бывае ні дзяцей, ні ідэй, ні грошай, а адны фрустрацыі і комплексы непаўнавартасці.

***Васіль Аўраменка, медык (Магілёў)***

## З Магілёўскага заводу штучнага валакна скарачаюць 442 чалавека




Прычынай масавага звальнення людзей з'яўляецца рэарганізацыя завода ў сувязі з яго нізкай рэнтабельнасцю.

Скарачэнне людзей з цэху па вырабу ядвапу будзе адбывацца з 13 сакавіка па 1 красавіка бягучага году.

Мясцовыя ўлады будуць прапаноўваць іншыя працоўныя месцы людзям, якія патрапілі пад скарачэнне. У прыватнасці, рабочыя, якія крышку не дапрацавалі да пенсіі па шкоднасці, змогуць працаўладкавацца на "Магілёўхімвалакно".

У іншым выпадку працаўладкавацца можна праз Магілёўскі гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва. Людзі, якія былі скарочаны з заводу штучнага валакна, будуць мець першаснае права на атрыманне новай працы.

Застаўшыяся пабудовы разам з тэрыторыяй заводу будуць уключаны ў склад свабоднай эканамічнай зоны. Вытворчасць па вырабу плёнак плануецца захаваць. Скарачэнне 800 чалавек, якія працуюць над іх вырабам, не плануецца.

***Вітольд Няўрыда***

## У Шклоўскім раёне жывёлы не хварэюць?



Галоўны ветэрынарны ўрач Шклоўскага раёна сцвярджае, што становішча с захворваннямі жывёлы сухотамі (туберкулёзам) у раёне не выклікае непакою

Пра гэта Іван Радоўскі паведаміў у Шклоўскай раённай газеце "Ударны фронт".

У 2011 годзе ў раёне было даследавана на сухоты па першаму разу 35 142 галавы буйной рагатай жывёлы, па другому – 19 735. З іх выяўлена станоўча рэагіруючых на сухоты адпаведна 100 і 120 галоў. У прыватным сектары даследавана 967 галоў, выяўлена 3 рэагіруючыя. Усе гэтыя жывёлы былі здадзены на мясакамбінат.

У гэтым годзе праца па выяўленні хворай на сухоты жывёлы працягваецца . Ужо даследаваны дойны статак у ААТ "Александрыйскае" і ПУП "ААБ Гарадец". Выяўлена адпаведна 6 і 4 галавы хворай буйной рагатай жывёлы, якія таксама здадзены на мясакамбінат.

Між тым на мінулым тыдні шэраг беларускіх і расійскіх інтэрнэт-сайтаў распаўсюдзілі інфармацыю аб нібы маючым месца масавым захворванні жывёлы сухотамі ў ААТ "Александрыйскае" Шклоўскага раёна. Сцвярджалася таксама, што заражанае малако ад хворых кароў пастаўлялася на малакоперапрацоўчыя прадпрыемствы і спажыўцам у Беларусі і Расіі.

Раней першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Надзея Каткавец заявіла, што гэтая інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці.

«Малако з сухотамі проста не можа патрапіць ні ў Расію, ні ў нашу гандлёвую сетку, — заявіла Надзея Каткавец. — На ўсіх этапах — на ўваходзе малака на любое прадпрыемства, на выхадзе прадукцыі, — ажыццяўляецца строгі кантроль».

***Барыс Вырвіч***

*па просьбах чытачоў*

## Што распавёў беглы суддзя з Клімавіч пра нашых землякоў



**Ігар Цішкін**

Пасля выхаду першага нумару "Паходні" у 2012 годзе, які атрымаўся даволі рэзанансным, ужо больш за дзесятак чытачоў звярнулась да мяне з просьбай надрукаваць інтэрв'ю беглага Клімацкага суддзі Ігара Цішкіна. На гэта інтэрв'ю была спасылка ў адным з размешчаных у нумары матэрыялаў, які вельмі зацікавіў чытачоў газеты. Што ж, мы не маглі пакінуць без увагі гэту просьбу нашых чытачоў і ў гэтым нумары "Паходні" друкуем тэкст інтэрв'ю, якое даў маладому беларускаму журналісту Руслану Шошыну ў кастрычніку 2010 года былы Клімавіцкі суддзя Ігар Цішкін. Тады ж інтэрв'ю было размешчана на інтэрнэт-сайце "Адкрытая Беларусь", яго тэкст перадрукавалі шэраг незалежных беларускіх газет. Арфаграфія, стылістыка і правапіс аўтара матэрыяла захаваныя.

Ад сябе асабіста хачу дадаць толькі тое, што сам былы Клімавіцкі суддзя Ігар Цішкін таксама не з'яўляецца такім "белым і пушыстым" барацьбітом з карупцыяй, якім паказвае сябе ў інтэрв'ю. Па словах калег-журналістаў з газеты "Вольны горад", былы старшыня суда Клімавіцкага раёна таксама той яшчэ "кадр". У свой час спадар Цішкін, па загадзе зверху, спрабаваў запалохваць штрафамі і пакараннем незалежных журналістаў і грамадскіх актывістаў, а пасля сам жа звярнуўся да іх за дапамогай. Яшчэ адно пацвярджэнне народнай мудрасці, што пляваць у студню не трэба, бо давядзецца вады напіцца. Дарэчы, не зусім зразумела, ці сапраўды Ігар Цішкін быў "непадкупным і прынцыпіяльным змагаром з "Клімавіцкай мафіяй", якая зарабляла "шалёныя" грошы на кандрабандзе ў Расію, альбо сам быў адным з яе ўдзельнікаў. Па чутках, летам 2007 года Ігара Цішкіна ўказам кіраўніка краіны адхілі ад пасады старшыні суда і суддзі Клімавіцкага раёна пасля таго, як супрацоўнікі КДБ затрымалі прафесійную пасрэдніцу ў перадачы хабара. Быццам бы жанчына дала поўны расклад, каму, колькі і за што плацілі ў Клімавіцкім раёне. У шэрагу іншых знакавых асоб было названае і прозвішча старшыні Клімавіцкага суда, аднак Ігар Цішкін з сям'ёй змог выехаць праз Украіну ў Польшу. Па тых жа чутках, не далі супрацоўнікам КДБ крануць і іншых клімавіцкіх "кадраў", бо быццам бы карупцыйныя схемы вялі на больш высокі ўзровень…

Дарэчы, жыве Ігар Цішкін "у праклятых буржуінаў" вельмі нядрэнна, відаць, клімавіцкая зямля вызначаецца нейкай асаблівай "ураджайнасцю"…

Ну а той факт, што "клімавіцкая мафія сапраўды бессмяротная", найшоў пацвярджэнне напрыканцы студзеня гэтага года. Нагадаю, што тады за вымагальніцтва хабара ў 500 тысяч долараў ( нічога сабе апетыты ў нашых ахоўнікаў правапарадку) былі затрыманы тры былыя падначаленыя палкоўніка Юрыя Сіманава, у тым ліку яго "замена" на пасадзе начальніка Клімавіцкага РАУС.

***Барыс Вырвіч***

## Судзьдзі! Не бярыце грэх на душу!

Ігар Цішкін працаваў старшынём Клімавіцкага раённага суду з 2000 па 2007г.

З гэтай пасады яго вызваліў асабіста Лукашэнка загадам 1 чэрвеня 2007 году нібыта за парушэньне закону. Яшчэ да зьяўленьня ўказу Ігар Цішкін пасьпеў зьехаць зь Беларусі разам зь сям'ёй.

Ў 2009 годзе Ігар Цішкін атрымаў палітычны прытулак ў Польшчы. Да сёньняшняга дня не распавядаў рэальных матываў сваёй іміграцыі і не называў прозьвішчаў. Аб карупцыйнай сістэме Магілеўскай вобласьці, аб прыўладных кланах і аб'ектыўнасьці беларускіх судоў, распавядае экс-старшыня Клімавіцкага раённага суду Ігар Цішкін.

*Што падштурхнула Вас на іміграцыю?*

Цішкін: Матывам маёй іміграцыі зьяўляецца бясьпека маёй сям'і.

Я не прыслугоўваў кіраўніцтву і аб'ектыўна разглядаў кожную справу. Зьяўляючыся старшынём суду, асаблівую увагу зьвяртаў на кантрабандныя справы. У асноўным гэта нелегальны вываз каляровага металу па-за межы РБ. Але самае балючае мейсца – гэта сьпірт. "Клімавіцкі ЛВЗ" штогод пастаўляе ў Расею тоны 'чорнага' сьпірту. За гэтым працэсам уважліва назіраюць і кантралююць мясцовыя ўлады. У мае часы гэта быў старшыня райвыканкама спадар Канавалаў, каторы супрацоўнічаў з РАУС. Ланцуг не сканчваецца раённымі ўладамі. Раён дае справаздачу абласному (Магілёўскаму) кіраўніцтву, а вобласьць ў сваю чаргу Менску.

***(Пачатак. Прац. на стар. 5)***

# Судзьдзі! Не бярыце грэх на душу!

**(Працяг. Пач. на стар. 4)**

*‘Ланцуг’ існуе сёньня?*

Цішкін: Безумоўна. З маіх расейскіх, беларускіх крыніц паступае інфармацыя аб тым, што кантрабанда металу і сьпірту ідзе па сёньняшні дзень. Магу з упэўненасьцю сказаць, што не астатнюю ролю ў гэтым грае кіраўнік Клімавіцкага РАУС Юрый Сіманаў. На адной з зачыненых імпрэзаў, у Дзень міліцыі, Сіманаў, у прысутнасьці калегаў, і знаходзячыся ў стане алкагольнага ап’яненьня, заявіў: ‘Я павінен прыбраць Цішкіна з раёну, ёсьць загад’. Хто мог даць такі загад зразумець не складана. Маёй справай займалася КГД.

*Хто кантралюе гэтыя патокі?*

Цішкін: Кантралюе гэта старшыня Бабруйскага гарвыканкама Дзьмітрый Бонахаў (былы дырэктар Клімавіцкага ЛВЗ), стаўленьнік Віктара Лукашэнкі. Сьпірт для перапрацоўкі прывозілі з Бабруйску, потым яго пастаўлялі ў Расею. Гэты бізнес прыносіць ім вялізныя грошы.

*Вам прапаноўвалі ‘хабар’ за маўчаньне?*

Цішкін: Так, прапаноўвалі. Гэта адбылося падчас майго перапрызначэньня. Згоду на перапрызначэньне судзьдзі ў РБ дае старшыня райвыканкама. Ён жа і прапанаваў мне працаваць зь імі ў „камандзе". Мой адказ быў такім: ‘Працаваць з Вамі я буду толькі ў межах закону’. У той час старшынём райвыканкаму быў спадар Канавалаў, шчыра веруючы ў сістэму. Пазьней ён перастаў верыць і „некарэктна" выказаўся ў адрас В.Шэймана, пасьля чаго патрапіў у турму. Крыху пазьней ‘зачынілі’ яго сына, супрацоўніка міліцыі.

*Як быць беларускаму судзьдзе калі закон патрабуе аднаго а людзі ‘зьверху’ зусім іншага?*




Цішкін: Кожны судзьдзя думае, што паступае справядліва, але ці аб’ектыўна ён паступае. Калі няма доказаў, лепей направіць справу на дапрацоўку. Калі ёсьць падставы для спыненьня справы – спыніць, але не браць грэх на сваю душу, выносячы не аб’ектыўны прысуд. Калі судзьдзя не улез у карупцю, яму няма чаго баяцца. Я бачыў польскія суды. Бачыў, якую ролю тут грае адвакат, а якую пракурор. Закон ў Польшчы – гэта ўсё, і ніхто не мае права яго парушаць, кім бы ён не быў. Вось з каго трэба браць прыклад.

*Ці шмат аб’ектыўных судзьдзяў у Беларусі?*

Цішкін: З кожным днём іх становіцца ўсё меньш і меньш. Нежалежным судзьдзёй у Беларусі быць не магчыма. Калі ня вырашыць пытаньне – не атрымае кватэру, жонка не будзе працаваць на добрай пасадзе, дзеці не будуць вучыцца ва ўніверсітэтах. Калі я адмовіўся супрацоўнічаць, звольнілі майго брата, пляменьніка звольнілі зь міліцыі, сястру з падаткавай інспекцыі, пачаўся ціск на старэйшую дачку ў тэхнікуме. Я прайшоў праз гэта.

*Ці становіцца судзьдзя саўдзельнікам, ідучы на „ланцугу"?*

Цішкін: Безумоўна. Судзьдзя становіцца саўдзельнікам беззаконьня, прававога „бязмежжа", каторае адбываецца ў Беларусі. Калі судзьдзя ідзе на „ланцужку" у якога небудзь клану, альбо асобы, ён становіцца злачынцам. Зразумела, ён лічыць, што выконвае свой абавязак, я так сама лічыў так. Зь мяне, старшыні суду, зрабілі хабаршчыка, махляра.

*Што Вам вядома пра „кланы"?*

Цішкін: Прывяду асабісты прыклад. У 2001 годзе, да мяне ў суд, прыйшла на разгляд справа начальніка падаткавай інспекцыі Стэфаненкі Ніны Мікалаеўны. Справа ў тым, што яе сын вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі па падробленым дакумэнтам. Не складана было зразумець, дзякуючы каму былі падробленыя дакумэнты, таму я адхіліў Стэфаненка ад пасады за перавышэньне службовых паўнамоцтваў. Адразу ж справу перадалі ў абласны суд, які адмяніў мой прысуд. Ніна Мікалаеўна заняла пасаду начальніка фінансавага аддзела Клімавіцкага райвыканкаму.

У 2006 годзе мае паўнамоцтвы, старшыні суду, скончыліся. Для перапрызначэння, я павінен быў прайсці ўзгадненне ў спадара Лаўрынкова,

**(Заканчэнне на стар. 6)**

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Судзьдзі! Не бярыце грэх на душу!

**(Заканч. Пач. на стар. 4-5)**

кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта па магілёўскай вобласці. Знаходзячыся ў яго кабінеце, ён прыгадаў мне справу пяцігадовай даўнасьці і сказаў: “Я думаю, падпісваць Вам ці не. Памятаеце справу Ніны Мікалаеўны. Ці не жорстка Вы зь ёй паступілі?”, Пасля чаго я адказаў “я паступіў у адпаведнасьці з законам “, “ З Вамі таксама паступяць па законе. “- скончыў Лаўрынкоў.

Пасля гэтых слоў за мной пачалосе сачэньне, праслухоўка. Дакумэнты аб маім перапрызначэннем дайшлі ды Адміністрацыі прэзідэнта. Я прайшоў усе ўзгадненьні і дакументы павінны былі трапіць на подпіс да Піткевіч, але чамусьці патрапілі на стол да міністра юстыцыі з просьбай аб зняцьці зь мяне імунітэту судзьдзі і адхіленьні ад пасады ў цэлым.

Так і атрымалася, я быў адхілены ад пасады ўказам прэзідэнта Лукашэнкі ад 1 чэрвеня 2007 года. Вось Вам і кланы. А сфармаваліся яны дзякуючы кіраўніцтву краіны, якое на асабістым прыкладзе паказвае астатнім як трэба працаваць, каб ўсё праходзіла праз адныя рукі. Між іншым, Стэфаненка Ніна Мікалаеўна, узначальвае сёньня Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь у Клімавічах.

*Што б адбылося ў выпадку вашай экстрадыцыі ў Беларусь?*

Цішкін: Я б не дажыў да суду. Якім можа быць суд у Беларусі, калі сам Лукашэнка заяўляў: “Гэта нашыя судзьдзі”. Аб якім аб’ектыўным працэсе можна весці гаворку. Колькі людзей не дажыло да суду, колькіх людзей асудзілі па сфабрыкаваных справах, а колькіх увогуле без прысуду. Дзе зьніклыя палітыкі і журналіст? Мая экстрадыцыя ў Беларусь была б парушэньнем міжнароднай канвенцыі аб статусе бежанцаў. Выдаваць людзей нельга Беларусі толькі па адной простай прычыне - у Беларусі няма незалежных судоў.

*Па сёньняшні дзень Вас шукае “Інтэрпол”. Вас гэта не бянтэжыць?*

Цішкін: Сапраўды гэта так. Я, чалавек атрымаўшы статус палітычнага ўцекача ў Польшчы, знаходжуся ў зачыненай прасторы. Межы Польшчы пакінуць не магу. Беларусь упарта працягвае плаціць вялізныя грошы “Інтэрполу” за маё фота. Робяць яны гэта для таго, што б зьняважыць чалавека і даць зразумець, што гуляць з агнём не варта ў Беларусі. Але я не адзіны чалавек, які бег ад дыктатуры, у Варшаве ёсць фонд “Адчыненая Беларусь”, які аб’яднаў людзей з агульнай



мэтай - паказаць сапраўдны твар беларускага дыктатара міжнароднай супольнасьці. Што тычыцца Інтэрполу, то мы палітычныя ўцекачы, пісьмова зьвяртаемся ў Еўрапейскі парламент, Раду Эўропы, а галоўнае ў Ліён.

*А як быць з выездам на ўсход?*

Цішкін: Акрамя “Інтэрполу”, у краінах СНД ёсьць сваё пагадненьне аб супрацоўніцтве, у мяне сваякі ў Расеі, мне прапаноўвалі добрую працу ў Санкт-Пецярбургу. Нам, палітычным бежанцам зь Беларусі, уезд у СНД, на жаль, зачынены.

**Руслан Шошын**

## ПОПРОСИЛ СИГАРЕТУ

Как сообщили в пресс-службе прокуратуры Могилевской области, недавно 43-летний житель д. Большой Межник Шкловского района был приговорен к 6 годам лишения свободы.

На улице в деревне преступник убил односельчанина ударом камня в живот. А все началось с того, что мужчина подошел попросить сигарету. Смертоносный удар камнем был нанесен, когда человек лежал на земле. Подсудимый был признан виновным в причинении смерти по неосторожности.

28 февраля также СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении неработающего несудимого жителя д. Городище Шкловского района 1984 г.р., который 27 февраля около 14-00 в указанной деревне из квартиры гражданина 1992 г.р. похитил 7 кг мяса. Мера пресечения не избиралась.

## Объявление

Уважаемые жители г. Могилева и Могилевской области!

В УВД Могилевского облисполкома с 12 марта по 12 апреля будет работать «телефон доверия» по противодействию коррупции. Об известных вам фактах коррупционных преступлений, совершаемых должностными лицами, можно сообщить в рабочие дни с 9:00 до 18:00 по телефону 25-39-95. Анонимность гарантируется.

***Отделение информации и общественных связей УВД***

# Воруют всё

За крупные хищения под следствием оказались работники дорожных предприятий Могилевской области

Дороги в Могилевской области могли бы быть лучше: в их асфальтовом покрытии не хватает компонентов на целых Br1,5 млрд. Факты крупных хищений в системе дорожного строительства и ремонта дорог Могилевской области рассматривает суд Октябрьского района областного центра.

За подобные действия к уголовной ответственности привлечены более 10 руководителей соответствующих предприятий региона. Некоторые из них на время следствия находятся под стражей.

Как отметили в прокуратуре Могилевской области, нарекания могилевских автомобилистов на плохое качество покрытия многих дорог региона, возведенных за последние несколько лет, были справедливы. Как установило следствие, причиной этого стали финансовые преступления теперь уже бывших руководителей дорожно-мостовых предприятий области.

«В системе организаций была создана схема: путем изменения состава асфальтно-бетонной смеси создава-



лись излишки, которые впоследствии похищались, - рассказал заместитель прокурора Могилевской области Сергей Сильванович. - Дорожная отрасль сама устанавливала нормы расходов компонентов покрытия таким образом, чтобы свободно присваивать эти дорогостоящие составляющие».

Напомню, что в деле о хищениях в дорожной отрасли оказался замешан и руководитель одной из дорожно-строительных организаций Белыничского района А., который уже длительное время находится под стражей в следственном изоляторе.

“Паходня” обязательно более подробно расскажет о хищениях в дорожной отрасли Могилёвской области после рассмотрения уголовного дела в суде.

***По материалам Радио «Могилев»***

З рэдакцыйнай пошты

***Развважанне***




*Каб размаўляць на роднай мове, патрэбна ўмець думаць. А каб думаць, патрэбна спадчыну любіць. Скажыце, калі ласка, а хто хоча сёння дзеля росквіту роднай мовы хоць пальцам пашавяліць? Лепей крыху пачакаць, а, мабыць, усё жыццё і праляціць у нудзе і самоце? Людзям патрэбна раз і назаўсёды ўсвядоміць тое, што прыходзіць з добрых, старажытных, натхнёных думак. Гэта і патрэбна аформіць праз мову, - песні, фарбы, гукі, рухі, - таму, што Беларусь – гэта не звон, што звоніць і не бык, які крычыць. І не сенажаці і пожні... Беларусь, Радзіма, як маці, гэта тое, чым хочацца жыць!*

***Уладзімір Т., вёска Мокравічы***

# На Магілёўшчыне знізіўся давер да міліцыі

У канцы 2011 года толькі 35,9% жыхароў вобласці давярала міліцыянтам. Гэты паказчык на 1,3% ніжэйшы, чым быў у 2010 годзе. У звестках, прыведзеных супрацоўнікамі аддзелу маніторынга штаба МУС Рэспублікі Беларусь, 54,4% магілёўцаў міліцыі давяраюць не ў поўнай меры, а 8,9% не давяраюць зусім.

Апытанне жыхароў праводзілася ва ўсіх раёнах вобласці. Самымі даверлівымі да міліцыянтаў аказаліся жыхары Краснапольскага, Кіраўскага, Глускага і Чэрыкаўскага раёнаў. У гэтых раёнах паказчык даверу перавышаў 40%.

6,7% з апытаных адзначылі грубасць і нетактоўнасць міліцыянтаў.

Сярод крыніц інфармацыі, якія ўплываюць на фарміраванне іміджу міліцыі, 32,3% грамадзянаў назвалі асабісты вопыт, 15,2% — публікацыі ў прэсе, 10,8% — дакументальныя перадачы па тэлебачанні і радыё на крымінальную тэматыку, 3,4% - кінафільмы і серыялы, 2,4% - інтэрнэт, 13,9% - размовы з сябрамі і знаёмымі, 5% - чуткі і выпадковыя размовы.

Праваабаронца Барыс Бухель адзначае, што давер да міліцыі знізіўся ў сувязі са зніжэннем іх прафесіяналізму і маральных якасцяў: “З-за адносна нізкіх заробкаў прафесіяналы звальняюцца. Людзі разбягаюцца і большасць з іх едзе на заробкі ў Расію і ўладкоўваюцца на працу звычайнымі будаўнікамі. Пра гэта казаў таксама падчас асабістай размовы палкоўнік Сяргей Іваноў. Другой прычынай з’яўляецца тое, што вельмі часта міліцыянты выконваюць незаконныя загады начальства. Гэта разбэшчвае іх. Па-трэцяе, няма конкурсу ў міліцыю – на працу бяруць абыкаго”, - гаворыць праваабаронца.

***Крыніца: Праваабарончы цэнтр “Вясна”***



*чуткі*

# У Бялыніцкім раёне хутка зменіцца старшыня райвыканкама?



Сярод насельніцтва нашага раёна, асабліва набліжанага да "белага дома", апошнім часам пастаянна ідзе абмеркаванне пытання наконт таго, хто зменіць Аляксандра Вароніна на пасадзе старшыні Бялыніцкага райвыканкама.

Многія райвыканкамаўскія чыноўнікі сцвярджаюць, што замена Аляксандра Мікалаевіча "другога"на іншага чалавека – пытанне, практычна вырашанае ў аблвыканкамаўскіх колах. Быццам бы Аляксандр Мікалаевіч на пасадзе праявіў сябе, як даволі мяккі чалавек, а напярэдадні "Дажынак", правядзенне якіх адбудзецца ў Горацкім раёне Магілёўскай вобласці, патрабуецца асоба больш жорсткая. На свята працаўнікоў вёскі праз раён будзе ехаць шмат высокіх гасцей, таму на Бялынiччыне павінна быць створаная адпаведная "паказуха". Аляксандр Мікалаевіч быццам бы будзе перасунуты на пасаду старшыні Бялыніцкага райсавета, якая вызвалілась пасля сыходу на пенсію Мікалая Гузнякова, але абмяркоўваюцца і іншыя варыянты яго працаўладкавання. Дарэчы, блізкія да Мікалая Аляксандравіча людзі сцвярджаюць, што той таксама на пенсіі адпачываць не збіраецца, а будзе аказваць дапамогу бялыніцкім спартоўцам, працуючы ў гандбольным клубе "Друць".

Наколькі верагодна такая ракіроўка, мы сцвярджаць не можам, аднак звычайна дыма без агню не бывае. Канешне, дзіўна, што Аляксандр Мікалаевіч "другі" так хутка сыходзіць з пасады,бо за гады яго кіраўніцтва раён здолеў значна палепшыць эканамічныя паказчыкі.

У якасці найбольш верагоднага пераемніка Аляксандра Вароніна на пасадзе старшыні райвыканкама часцей за ўсё ўзгадваюць Леаніда Засемчука, які не адзін год адпрацаваў у нашым раёне першым намеснікам старшыні райвыканкама. Зараз Леанід Іванавіч працуе на аналагічнай пасадзе ў суседнім Шклоўскім раёне. Кажуць, што з нашага раёна ён вымушаны быў сыйсці, бо ніяк не знаходзіў паразумення з двумя жанчынамі, з якімі працаваў у адной установе, - намеснікам старшыні райвыканкама Надзеждай Серыкавай і кіруючай справамі райвыканкама Святланай Вайтовіч. Быццам бы гэтыя мілыя жанчыны пастаянна "закладывалі" Леаніда Іванавіча старшыні райвыканкама і таму за гэта "перападала на арэхі". Канешне, сцвярджаць мы нічога не можам, але шмат хто з блізкіх знаёмых Леаніда Засемчука гэту інфармацыю спраўджвае.

У якасці верагодных кандыдатаў на пасаду старшыні ўзгадваюцца і шэраг іншых прозвішчаў, з знаёмых нашых чытачам гучаць тая ж Надзежда Серыкава і Аляксандр Мікалаевіч "першы" (Ільянаў). Канешне, гэтыя варыянты малаверагодны. Зразумела, што ў раёне напярэдадні дажынак патрэбны моцны гаспадарнік, але Аляксандр Ільянаў вельмі дора адчувае сябе ў Мінскай вобласці пад мудрым кіраўніцтвам былога старшыні Магілёўскага аблвыканкама і свайго "апекуна" Барыса Батуры. Аляксандр Мікалаевіч узначальвае адну з буйнейшых беларускіх птушкагадоўчых гаспадарак побач са сталіцай – племптушказавод "Беларускі", - пастаянна адзначаецца і прэміруецца на разнастайных сходах, як адзін з лепшых кіраўнікоў Мінскай вобласці. Ну а нагодай для чутак аб мяркуемым вяртанні ў Бялыніцкі раён, на нашу думку, паслужылі неаднаразовыя выкаванні былога старшыні (па словах яго знаёмых)аб тым, што ён усё роўна, скажам так, "высветліць адносіны" з кіраўніком найбольш багатай гаспадаркі Бялыніцкага раёна і сваім калегам па працы ў раёне Клімавіцкім…

Таксама не выключана, што Бялыніцкі раён можа ўзначаліць і нехта з "варагаў" з суседніх раёнаў. Некаторыя абмяркоўваемые прозвішчы сталі вядомыя журналістам нашай газеты, але пакуль мы называць іх не будзем.

***Вікторыя Бялова***

## Двойное самоубийство в Кличеве: погибли две сестры-школьницы

В Кличевском районе выясняются обстоятельства и мотивы самоубийства двух сестер-школьниц.

Как сообщили БелаПАН в правоохранительных органах, поздно вечером 3 марта в квартире дома в деревне Дмитриевка висящими в петлях были обнаружены трупы ученицы 10-го класса вечерней школы 1995 года рождения, жительницы Кличева, и ее двоюродной сестры ученицы 9-го класса базовой школы 1997 года рождения.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 06.03. 2012 г. у 18-00.